# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праудзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Субота 18-га лістапада 1922 г. № 32 (57).


# Вынікі выбараў.

Па неспраўджаных яшчэ даных у Сойм аказаліся выбранымі ад беларусаў: **Кахановіч**, **Рагуля**, **Сабалеўскі** (Навагрудзкі акр.), **Ярэміч** (Пінскі акр.), **Аўсянік**, **Рак-Міхайлоўскі** (Лідзкі акр.), **Кс. Станкевіч, Мятла** (Сьвенцянскі акр.) **Баранаў,** (Гарадзенскі акр.) **Каліноўскі** (Беластоцкі акр.) і **Якавюк** (Бельскі акр.) Па дзяржаўнаму сьпіску ў Сойм першы ідзе праф. **Тарашкевіч**, другое беларускае месца займае Ярэміч, які выбраны па Пінскаму акругу, трэцяе месца займае Кахановіч, які пасьля аканчальнага ўстанаўленьня ліку выбраных пройдзе па дзяржаўнаму сьпіску і тады па Навагрудкаму акругу пройдзе яшчэ адзін беларус **Шнаркевіч**

У Сэнат выбраны: **Уласаў А.** (Віленшчына) **Назарэўскі і Каспэровіч** (Навадрудчына). З другіх месц яшчэ вестак ня маем.

## Наша пабеда.

Ня гледзячы на ўсе перашкоды, ня гледзячы на крыўдны для нас выбарны закон, ня гледзячы на тэрор адміністрацыі і нялічаныя гвалты,—**беларусы адваявалі сябе месца ў Сойме.**

Паводле нашых аблічэньняў, па сьпіскам № 16 у Сойм прайшло **дванаццаць беларусаў**. Дый гэта — ня ўсё: бо некалькі беларусаў прайшло такжа па сьпісках „Вызволеня“. Гэтак, у варшаўскім Сойме ўсяго беларусаў будзе **каля дваццацёх**.

Ня прыходзіцца даводзіць, што гэта—**вялізарная пабеда,** Перад выбарамі палякі лічылі, што беларусаў у Сойме можа быць ня больш за 4-5 душ. Вынікі выбараў далі цыфру ў чатыры разы вялікшую. Дарма польскія нацыяналісты з правага і левага крыла ажно сіпяць на нас за гэта, дарма Обст у адгаі з гора піша аб „паражэньні беларусаў“ на тэй аснове, што за сьпісак банды „зялёнадубцаў“ у Вільні пададзена ўсяго 10 галасоў,—пабеды нашае нішто і ніхто зьмяніць ня можа. Яе пацьвярджае і прыведзены Обстам факт, што на ўсю Вільню знайшлося сярод беларусаў **ня больш дзесяцёх здраднікаў,** якія за грошы польскіх паноў згодзіліся адступіцца ад агульна-беларускага камітэту і аддаць свае галасы не за № 16!

Аглядаючыся на ўвесь ход выбарнае агітацыі варожых нам партыяў, якія на выбарах праваліліся, мы бачым яшчэ адзін доказ таго, што беларускі народ **сьвядома** йшоў да выбараў, што пабеда дасталася нам толькі дзякуючы высокаму разьвіццю ў нашых масах **нацыянальнае сьвядомасьці і нацыянальнага пачуцьця**. Праваліліся і „зялёнадубцы“, і „балахоўцы-пагромшчыкі“, праваліўся ўвесь сьпісак № 22, на чале якога стаяў „rodzony brat Naczelnika Panstwa“, бо народ зразумеў, што за імі стаіць польскі пан-абшарнік з бізуном, стаіць польскі каляніст, які цікуе на нашу зямліцу. Затое-ж. побач з № 16, у цэлым радзе беларускіх акругоў прыходзілі кандыдаты „Вызволеньня“, якое ўвесь час агітавала пабеларуску, выпускала беларускія газэты і адозвы, заяўляючы нашаму сялянству, што ў сваей праграме „Вызволене“ стаўляе абарону нацыянальных патрэб беларускага народу, барацьбу проці польскае каляніза цыі, абарону беларускае школы, дамаганьне аўтаноміі заходняе Беларусі, забранае Польшчай. Усе гэтыя пункты былі даслоўна сьпісаны з выбарнае плятформы Беларускага Цэнтральнага Выбарнага Камітэту, і затым-то сяляне, ня ведаўшыя праўды аб сьпіску № 16 ахвотна галасавалі за „Вызволене“, думаючы, быццам гэта—беларуская партыя. Дый „вызволенцы“ інакшай сябе і не называлі, а ў сваіх выступленьнях проці сьпіску № 16 закідалі нам якраз „небеларускасьць“, закідалі, быццам мы галасамі беларускіх сялян хочам правясьці ў Сойм жыдоў, якіх запраўды прайшло ад наша краю побач з дванаццацьма беларусамі ўсяго толькі два!

Можам зусім цьвёрда заявіць, што на выбарах у Сойм ад нашага краю **пабеда дасталася ня „Блёку Нацыянальных Меншасьцей“ і не „Вызволеню“, а выключна беларускай ідэі—беларускаму штандару,** пад якім ішоў і № 16, і № 3.

У гэтым-то крыецца наша **падвойная пабеда,**—і пабеда беларускае ідэі бязьмерна важней, чым здабыцьцё соймавых мандатаў: мы—дый не адны мы, а ўвесь сьвет—пераканаліся, што, ня гледзячы на сьмяротны прысуд нашаму народу, зроблены польскім урадам вустамі пана Скульскага, **беларускі народ жыве, жыць хоча і жыць будзе,** як-бы яго ні ўціскала пануючая нацыя.

Цяпер перад намі новая задача: выкарыстаць нашу пабеду ў поўнай меры. Яе і павінны выпаў-

цьвёрда сказаць, што разьдзел паміж самімі беларусамі ды йшчэ ўнутранае змаганьне ў нашай сям'і — гэта толькі вада на польскі млын. І мы клічам усіх, хто чуе сябе беларусам, згуртавацца ў адну дружную грамаду і выступіць на абароны праваслаўнае царквы ад паняволеньня не польшчынай—не ў імя чужых нашаму народу маскоўскіх традыцыяў і перажыткаў, а выключна ў імя збеларушчаньня царквы.

## Нэўтральны.

**Ад рэдакцыі.** Высылка праваслаўнага архіяпіскапа Элеўферыя з Вільні ў няволю ў каталіцкі манастыр, з якога боку мы не паглядзелі-б на гэту справу, зьяўляецца дужа ясным паказчыкам таго беспраўнага становішча, ў якім знаходзяцца тут тыя, хто належыць да нацыянальных ці рэлігійных меньшасьцяў.

Можна быць розных паглядаў на працу высланага архіяпіскапа і з нацыянальна-палітычнага і з рэлігійнага боку. Але ўсё ж мы ведаем, што ні якага ён праступленьня не зрабіў, бо ў такім выпадку яго б гласна судзілі ці хоць прад'явілі яму якоесь абвінавачаньне. Але нічога гэтага ня было. Проста знінацку ўладыку ўзялі і вывезьлі ў духоўную цямніцу ды яшчэ і другога вызнаньня, дзе ён ня мае магчымасьці нават споўніць сваіх манашскіх абавязкаў, цатычучых набажэнства. У кожным прыпадку кірунак царкоўнай працы архіяпіскапа гэта ёсьць царкоўнагрмадзянская справа, ў якую не павінна мешацца дзяржаўная ўлада, і гэты акт высылкі праваслаўнага архіяпіскапа як найлепей паказвае нам тоя, як мы павінны гуртавацца дзеля абароны правоў нашых нацыянальных і рэлігійных меншасьцяў.

## Бібліяграфія.

„Маладая Беларусь“, навукова-літэратурны зборнік. Спытак першы. 1922. Бюро Беларускіх студэнцкіх арганізацый ў Маскве. Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Адраджэньне“. Коштам выдавецтва „Маладая Беларусь“. Менск. 1922. Страніц 84. Цана не азначана.

У нашыя сумныя часы бязупыннага змаганьня за істнаваньне роднай культуры, зьява на сьвет кожнай новай кніжкі—праўдзівае сьвята. З гэтай сьвяточнай радасьцю бярэшся за новую спробу выявіць калектыўнае „я“ нашай інтэлігэнтнай моладзі — орган Бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый ў Маскве—„Маладую Беларусь“.

Чакаеш выяўленьня новай волі да жыцьця, новай творчасьці, бодрых, прыгожых слоў—і прачытаўшы — ня ўсё чаканае знаходзіш.

Само Выдавецкае т-ва „Маладая Беларусь“ так акрэсьлівае свае заданьні. „Наша мэта—задаваленьне духоўных патрэб маладой боларускай інтэлігэнцыі ў сфэры больш дэтальнага пазнаньня роднай краіны і прыгатаваньня да будучай актыўнай працы над падняцьцем яе эканамічнага і культурнага дабрабыту“.

Дзеля гэтага, ў навукова-публіцыстычнай частцы зборніку важнае мейсца, займаюць стацьці чыста-навуковага характару: А. Функа — „Стварэньне беларускай народнасьці“, праф. П. Растаргуева — „Беларуская мова ў сьветле навуковага пазнаньня“, праф. М. Кулагіна—„Рэдкая жывела — рачны бобр на Беларусі“.

Нельга згадзіцца, што зьмяшчэньне ў органе студэнцтва ці, наагул, маладой інтэлігэнцыі, навуковых прац спэцыялістаў—ёсьць памыльная думка. Папершае, навуковы аддзел у такой часопісі ня можа быць пастаўлены паважна і плянова, ужо па тэй прычыне, што гэта орган не прафэсароў, а студэнтаў, а па другое, што навуковыя стацьці больш выпадае друкаваць ў спэцыяльных навуковых часопісах, выданьне якіх павінен зарганізаваць Інстытут Беларускай Культуры, скуль і студэнцкая моладзь больш сыстэматычна і поўна, чым з свайго зборніку, магла-бы чэрпаць патрэбныя весткі аб роднай старонцы.

Літэратурная частка зборніку такама не абыходзіцца бяз учасьця творчасьці старшага пакаленьня: Сярод вершоў знаходзіцца „Im Grünewald“ Цішкі Гартнага (Зьм. Жылуновіча) — твор не вялічкай паэтыцкай вартасьці з выразнай тэндэнцыяй. Замешчаны і адрывак (IX песьня) з паэмы Зьм. Бядулі „Ярыла“, напісанай лёгкім, прыгожым вершам, поўным пекных народных абразоў і зваротаў.

Што датычыцца да „ўласнага“ зьместу зборніка як органу інтэлігэнтнай маладзі, дык ў публіцыстычным аддзеле трэба аднатаваць вельмі глыбокую стацьцю Г. Гарэцкага. На новы шлях“. Разглядаючы зьявішчы культурнага жыцьця на Беларусі, паглыбляючы свой разгляд статыстычнымі данымі, аўтар прыходзіць да перакананьня, што ў справе усебаковага беларускага адраджэньня перад маладой народнай інтэлігэнцыяй стаіць цэлая маса заданьняў чыста практычнага характару. Для выкананьня іх патрэбна стварэньне вялікіх кадраў энэргічнай, краёвай, добра адукаванай інтэлігэнцыі, якую неабходна выцягнуць з гушчы народнай. У Г. Гарэцкім чуецца буйная публіцыстычная сіла.

Цікавы нарыс адносін дае стацьця „Беларуская культурна - нацыянальная справа ва Усходняй Беларусі“, П. Любецкага, які вельмі жыва малюе гісторыю адносін да беларускага культурнага элементу з боку некаторых прадстаўнікоў мясцовых савецкіх органоў улады ва ўсходніх губэрнях Беларусі і абрысоўвае сучаснае становішча культурна-нацыянальнай справы, якая, ня гледзячы ні на што, узмацоўваецца і займае ўсе больш прыкметнае мейсца у культурным жыцьці краю.

У публіцыстычнай частцы зборніку замешчана і заметка аб аткрыцьці і чыннасьці Беларускага Студэнцкага Клюбу імені Сьцяпана Булата ў Маскве адзіная вестка, якая высьвятляе студэнцкае жыцьцё ў Маскве.

Адсутнасьць жывога інфармацыйнага аддзелу, адсутнасьць сувязі з студэнцкімі арганізацыямі іншых мясцоў і карэспандэнцый адтуль, якія бы адбівалі чыннасьць, настроі і надзеі студэнцтва—трэба лічыць паважным недастаткам часопісі. Хоць „Маладая Беларусь“ і хоча насьледаваць традыцыі „тоўстых журналаў“, але з-за адсутнасьці спэцыяльнага студэнцкага органу, яна мусіць узяць пад увагу аддзел сувязі і інфармацыі, ажыцьцёвіць яго, зрабіць адным з цікавейшых, актуальных аддзелаў часопісі.

Пераходзячы да другой, літэратурнай часткі часопісі мусім адзначыць, што яна слабей публіцыстычнай. У вершах мала маладога задору, шуканьня новых шляхаў творчасьці.

Некаторым выключэньнем можна лічыць вершы Н. Дубоўкі. Адчуваецца моцная творчая воля ў ломаным рытмі яго „Зданьняў“ у сакавітых абразох' напр.:

„...Пьяны вечар сваволі-траўня..
„Вецер косы ночы расплёў дуронік..“
альбо:
„...кроў крынічыць.. Млосьць захопляець волю.“

Мае сваю паэтыцкую індывідуальнасьць Paulus, досыць добра валадае вершам. Толькі-ж чаму так трудна, так нягучна зложана:

„..ваш тут час.
А чаму няма ўсё вас.“

Рэшта вершаў пазбаўлена арыгінальнасьці формы і думкі. Возьмем, напр., верш Я. Журбы «У маёвую ноч»:

„Дзень маёвы патух, ноч акрыла зямлю.
Я адзін,—са мной шмат думак-дзетак.
Адчыніў я вакно — і паліўся ка мне
Кволы водар ад бэзавых кветак“.

Ці-ж гэта ня вольны пераклад выразаў і настрою вядомага расейскага паэты:

„Растворил я окно... Стало душно не в мочь,
Опустился пред ним на колени!.
И в лицо мне пахнула душистая ночь
Благовонным дыханьнем сирени.“ *)

Апавяданьне прозай Т. З. „Аўчар Ахрэм“, гдзе цёплымі, мягкімі танамі малюецца адзінокая, поўная смутку і камізму фігура вясковага калекі-аўчара ад яго няўдалага дзяцінства і маладасьці да жабрацкай старасьці,—сьведчыць аб паважным бэлетрыстычным з моцным нахілам да лірызму дараваньні аўтара.

Апроч літэратурнай ацэнкі зборніку, хочацца зрабіць яшчэ пару ўваг аб варунках жыцьця і творчасьці маскоўскай калёніі беларускага студэнцтва на падставе некаторых рысак яго зборніку.

З аднаго боку, беларускае студэнцтва нібы аб'яднана, зарганізавана ў Маскве ў 8 гурткоў, якія зьвязаліся ў Бюро, злучаючы каля 400 сяброў. А з другога боку сутнасьць арганізацыі расшыфроўваецца ў стацьці П. Любецкага: „Беларуская справа ўва Усходняй Беларусі“ у наступных словах:

„..якіх (студэнтаў) тут (у Маскве) маецца арганізаваных у гурткі, дзякуючы стараньням Белцэбюро, каля 400-500 чалавек“

Знача арганізацыі паўставалі не арганічна з долу, а завязываліся бюрократычным спосабам, пры помачы ўплываў „Белцэбюро“.

Адсюль зразумела, чаму ў зборніку на студэнцкую масу, на яе чыннасьць, жыцьцё, арганізацыі ня зьвернута належнай увагі, і ўчасьце гэтай самай масы ў сваім зборніку таксама не адчуваецца.

Праўда, варункі бытаваньня сярэдняга студэнта, асабліва пасьля ўвядзень-

*) Цытата на памяць І. А.

